## Адны і тыя граблі...

**Аляксандр ДУБРАВІН**

Нарэшце мы дачакаліся хоць нейкага пазітыву ад чыкінскага тэлебачання. Хоць памалу, але пачало яно адрабляць народныя грошы і выпраўляць тую шкоду, якую штодня робіць нашым тэлегледачам. У яго бяздонных смярдзючых багнах нарадзілася нешта разумнае з удзелам лукашэнкаўскіх функцыянераў. **На мінулым тыдні па ўсіх каналах пачалі круціць самаробны ролік сацыяльнай рэкламы, накіраваны супраць распаўсюджвання тытуню сярод непаўналетніх.** Заўважце, не супраць апазіцыі і не за ўзурпатара, а супраць тытуню.

Першая частка роліка атрымалася такая харошая, што хоць ты на відэа пішы. У студыі, на фоне чырвона-зялёнай посцілкі сядзіць лукашэнкаўскі памочнік палкоўнік Посахаў, злажыўшы ручкі перад сабой і гаворыць у аб'ектыў, што ён з болем «відзіт на уліцах мальчішек і девчёнок, которые курят» і што тыя гандляры, якія прадаюць тытунь непаўналетнім, зарабляюць «іудзіны дзеньгі». І што тут скажаш супраць? І ці знойдзецца хто незадаволены фактам такой рэкламы? Прагрэс! Ужо нешта чалавечае чуем ад карламарлаўскіх супермэнаў! Ужо нейкая новая, гуманістычная інтанацыя ў какафоніі суцэльнай дзяржаўнай шызафрэніі! Вядома, рэжа слых чарговая спасылка на аднаго кандыдата ў прэзідэнты, без дазволу якога бюракраты з яго адміністрацыі, мусіць, не ходзяць нават у прыбіральню. Але сам факт! Вельмі грамадзянскі, актуальна, таленавіта! Віншуем стваральнікаў! Трымайце і далей так!

Далей, праўда, атрымалася як заўсёды. За Посахавым на экране ўзніклі пахмурныя твары не дужа вядомых суровых дзядзькаў пры ўладзе і, тыя дзядзькі грозна папярэдзілі гандляроў тытунём, што паадбіраюць ліцэнзіі, калі яшчэ дзе Посахаў пабачыць падлеткаў з цыгарэтамі. Каб было зразумела, каго будуць шчаміць, паказалі будачку дробнага прыватнага гандляра. І паведамілі: каб гэтага кравапійцу было шчаміць зручней, стварылі такую дзяржаўную кааліцыю, дзе на першым месцы стаіць адміністрацыя кандыдата ў прэзідэнты. Нічога, праўда, не сказалі пра тых бабулек, якія гандлююць цыгарэтамі ўвогуле без ліцэнзіі — інакш ім не выжыць. Мусіць, іх будуць арыштоўваць на месцы, як ворагаў луканомікі. Не сказалі пра памер хабару, які трэба будзе даваць кантралёрам. Вядома ж, ён стане разы ў тры большы. Не сказалі, колькі будзе каштаваць аднаўленне ліцэнзіі праз «харошых людзей». Не сказалі, якім чынам будуць лавіць несумленных гандляроў. Мусіць, пры дапамозе звычайнай правакацыі, прыкладна так, як зараз ловяць каля пунктаў абмену валюты простых грамадзян. І колькі людзей будуць за зарплату рабіць гэтыя правакацыі? Нічога не сказалі пра гандляроў дзяржаўных крамаў. Хто іх будзе пільнаваць? І колькі будзе каштаваць пачак цыгарэт? І ці перастануць курыць падлеткі? І каму на руку гэтыя кааліцыі? Расійскім аптавікам тытуню?

Вось і ўся механіка. А зараз спытайце ў Посахава, якія «дзеньгі» атрымлівае ён? Мы ж дарослыя людзі, разумеем... ■

## Няма ратыфікацыі — няма расійскай крэдытнай лініі

**Аляксей АРЭШКА**

Затрымка з пералічэннем першай траншы ў памеры 1,5 мільярда расійскіх рублёў крэдытнай лініі Цэнтрабанка Расіі ў памеры 4,5 мільярда рублёў звязаная толькі з ратыфікацыяй парламентамі абедзвюх дзяржаваў адпаведных пагадненняў. Пра гэта 2 лютага на прэс-канферэнцыі ў Мінску заявіў старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Пётр Пракаповіч.

Ён нагадаў, што пасля падпісання кіраўнікамі Беларусі і Расіі пагаднення аб увядзенні адзінай грашовай адзінкі і стварэнні адзінага эмісійнага цэнтра Саюзнай дзяржавы, 15 снежня галоўнымі банкірамі абедзвюх дзяржаваў было падпісанае пагадненне аб адкрыцці крэдытнай лініі Цэнтрабанка Нацбанку Беларусі і крэдытнага дагавора на атрыманне першых 1,5 мільярда расійскіх рублёў. Усе тэхнічныя пытанні з Цэнтрабанкам на дадзены момант узгодненыя, аднак да ратыфікацыі парламентамі падпісаныя пагадненні ў сілу не ўступяць.

Пры гэтым Пракаповіч заявіў, што стабільнасць курсу беларускага рубля будзе забяспечаная і без расійскага крэдыту. Гэтыя сродкі, паводле яго словаў, прызначаныя галоўным чынам для вырашэння пытанняў паляпшэння ўзаемаадносінаў паміж суб'ектамі гаспадарання Беларусі і Расіі шляхам пашырэння сферы прымянення расійскага рубля з улікам таго, што праз некалькі гадоў ён пачне выконваць функцыі адзінай валюты. Пакуль жа, зазначыў Пракаповіч, «атрымліваецца, што мы трацім цвёрдую валюту на ўзаемаадносіны паміж саюзнымі дзяржавамі».

Беларускі рубель у разліках з расійскімі прадпрыемствамі таксама выкарыстоўваецца ўсё болей актыўна. Так, паводле звестак Пракаповіча, па стане на 1 лютага на рахунках банкаў-нерэзідэнтаў (расійскіх і прыбалтыйскіх) знаходзілася 11,2 мільярда беларускіх рублёў. ■

БелаПАН

**ФОТАФАКТ**

Фота IREX/ProMedia

Вайскоўцы на «Мінскай лыжні-2001»

## Генерал пнецца ў палату

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

61-гадовы генерал-палкоўнік Уладзімір Ягораў імкнецца ўчапіцца за апошні адыходзячы вагон з прэтэндэнтамі на мяккія месцы ў «палатцы». Былы старшыня КДБ (1994-1995 гг.) зачасціў з візітамі з Мінска ў Брэст.

Роля генерала ў так званых давыбарах у «палату» зусім не «вясельная». У памежным горадзе тысячы адстаўнікоў. Спадзеў, мусіць, на тое, што падагрэць іхні застылы энтузіязм да галасавання зможа былы (да 1977 года) камсамольскі важак, а затым начальнік УУС Брэсцкага аблвыканкама (да 1993 г.) і міністр унутраных справаў Беларусі. Пры Лукашэнку Ягораў сядзеў у палаце прадстаўнікоў.

Цікава, што сваю агітацыйную работу ў Брэсце ён пачаў з папулярызацыі новых Крымінальнага, Крымінальна-працэсуальнага і Крымінальна-выканаўчага кодэксаў, за распрацоўкі якіх атрымліваў ганарары. Колішні сілавік нібыта пераступіў на другую нагу і даводзіць зараз людзям, што хутка на волі апынуцца 3,5 тысячы цяперашніх турэмных вязняў, а 25 тысячам паўторныя суды знізяць тэрміны пакарання. Гэта, па словах адстаўнога міліцыянта, накіраванае на далейшую абарону правоў і свабодаў у беларускім грамадстве. ■

## ОРТ і РТР вяшчаюць у Беларусі задарма

**Алена ЛАБАНАВА**

Міністр сувязі Мікалай Крукоўскі на прэс-канферэнцыі 1 лютага яшчэ раз пацвердзіў, што «8 канал» быў зачынены выключна з прычыны сістэматычнай несвоечасовай аплаты за арэнду частотнага канала. Разам з тым ён прызнаў, што каналы ОРТ, РТР і «Культура» наогул не плацяць за рэтрансляцыю на тэрыторыі Беларусі, але заўважыў, што іх закрыццё немагчымае. Прычына прывілеяванага становішча ў спонсары. Аказалася, што трансляцыя гэтых трох расійскіх каналаў фінансуецца з дзяржаўнага бюджэту Беларусі. Выключэнне — толькі канал НТВ, які плаціць за сябе сам.

Паколькі беларускія ўлады так зацікаўленыя ў прысутнасці расійскіх каналаў, то і ўсе развагі аб размяшчэнні БТ-2 замест якога-небудзь з іх, акрамя НТВ, не маюць ніякіх падставаў. ■

## Трое невядомых збілі юрыста

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Досыць частымі сталі паведамленні пра збіццё на вуліцы людзей, якія з-за сваёй грамадзянскай пазіцыі не падыходзяць існуючаму рэжыму ў якасці марыянетак.

За апошні час на вуліцы збівалі шмат каго з інтэлектуальнай апазіцыі. Чарговай ахвярай стаў супрацоўнік грамадскага аб'яднання «Прававая дапамога насельніцтву» юрыст Алег Случак. 31 студзеня каля ўласнага дома па вуліцы Ляшчынскага трое грамадзянаў у нецвярозым стане напалі на яго і пачалі збіваць, адначасова спрабуючы вырваць з рук партфель. Але гэта ў іх не атрымалася, і тады нападнікі рэціраваліся, але ў хуткім часе былі затрыманыя супрацоўнікамі Фрунзенскага РАУСа. Аднак крымінальная справа ўзбуджаная не была, бо злоўленыя ўсё адмаўлялі, а доказаў, па словах міліцыянтаў, не стае.

Алег Случак атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні: кантузія 1-ай ступені, закрытая чэрапна-мазгавая траўма лёгкай ступені і шэраг больш дробных пашкоджанняў.

Цэнтр «Прававая дапамога насельніцтву» заявіў пратэст на адмову ва ўзбуджэнні крымінальнай справы і патрабуе неадкладнага выпраўлення гэтай юрыдычнай памылкі. ■

## Магілёўскі мітынг Свабоднага прафсаюза

**Канстанцін УВАРАЎ**

Шэраг патрабаванняў да ўладаў прад'явілі ўдзельнікі санкцыяванай акцыі пратэсту, якая прайшла ў Магілёве 3 лютага. Яе арганізатарам выступіла мясцовая арганізацыя Свабоднага прафсаюза беларускага.

Каля 60 жыхароў Магілёва прайшлі па вуліцы Чалюскінцаў да Палаца культуры завода штучнага валакна, дзе правялі мітынг пратэсту. Яго ўдзельнікі прынялі рэзалюцыю, у якой звярнуліся да Аляксандра Лукашэнкі з патрабаваннямі: забяспечыць выкананне заканадаўства Беларусі і міжнародных пактаў у адносінах да структурных падраздзяленняў Свабоднага прафсаюза беларускага; спыніць ушчамленні правоў прафсаюзаў; забяспечыць заключэнне трохбаковага Генеральнага пагаднення на 2001-2003 гады; спыніць рост цэнаў; павялічыць узровень рэальнай заработнай платы.

Аўтары рэзалюцыі таксама запатрабавалі ад старшыні Магілёўскага аблвыканкама Барыса Батуры забяспечыць у месячны тэрмін рэгістрацыю ў мясцовых органах кіравання абласной арганізацыі СПБ, стварыць нармальныя ўмовы для працы індывідуальных прадпрымальнікаў і правядзення перамоваў з прадстаўнікамі Свабоднага прафсаюза беларускага для ўрэгулявання актуальных праблемаў. ■

БелаПАН

## Напамін пра выбарчыя фальсіфікацыі

**Наталля КУЛАГІНА**

Беларускі Хельсінкскі камітэт (БХК) распаўсюдзіў даклад «Выбары дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па выніках назірання», у якім прыводзяцца факты грубага парушэння выбарчага заканадаўства і правоў грамадзянаў і канстатуецца, што выбары не адпавядалі міжнародным стандартам і патрабаванням Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 года.

Як паведаміла прэс-служба БХК, сярод атрымальнікаў даклада — ААН, АБСЕ, Міжнародная Хельсінкская Федэрацыя, грамадскія арганізацыі і палітычныя партыі Беларусі, бібліятэкі, органы ўлады і кіравання рэспублікі, пракуратуры, абласныя і Мінскі гарадскі суды, Вярхоўны, Вышэйшы гаспадарчы і Канстытуцыйны суды, Савет міністраў, Савет Бяспекі, Адміністрацыя прэзідэнта, Палата прадстаўнікоў і Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу, Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў.

Паводле звестак БХК, выбары сфальсіфікаваныя як мінімум у сямі выбарчых акругах; больш за 70 чалавек, якія ў рознай ступені адказвалі за правядзенне выбараў, здзейснілі злачынствы, прадугледжаныя Крымінальным кодэксам. Аднак дагэтуль так і не ўзбуджана ніводнай крымінальнай справы, вінаватыя не прыцягнутыя да адказнасці.

Як адзначае БХК, агульнапрызнаны недэмакратычны характар выбараў і фальсіфікацыя іх вынікаў пазбавілі Нацыянальны сход магчымасці стаць паўнапраўным членам міжнародных парламенцкіх арганізацыяў, чым нанеслі вялікую шкоду нацыянальным інтарэсам Беларусі. Таму БХК просіць вышэйназваныя дзяржаўныя ўстановы ініцыяваць галосную працэдуру расследавання фактаў фальсіфікацыі вынікаў выбараў. Беларускі Хельсінкскі камітэт гатовы несці адказнасць за сапраўднасць матэрыялаў, якія прадстаўленыя ў дакладзе.

БХК таксама заклікае ўсе інстытуты, якія маюць дачыненне да выбараў прэзідэнта, выканаць гэтую адказную кампанію ў адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі і абавязацельствамі Беларусі, каб не дапусціць паглыблення канстытуцыйнага крызісу і поўнай ізаляцыі краіны. ■

БелаПАН

## На «завал» кінутая пракурорская вахта

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

30 супрацоўнікаў цэнтральнага апарату Брэсцкай абласной пракуратуры адкамандзіраваныя ў Баранавічы і Пінск, а таксама знаходзяцца зараз у пракуратурах Ленінскага і Маскоўскага раёнаў абласнога цэнтра. Верхняе звяно караючага органа дапамагае такім чынам вызваліцца ад завалу судовых справаў на месцах. А сітуацыя такая, што толькі на працягу мінулага года зарэгістравана 12.037 злачынстваў, альбо на 8,5% больш, чым у 1999 г. Пры гэтым больш як палова злачынстваў – цяжкія, іхні рост склаў 15,9%.

У Ленінскім раённым судзе Брэста ўжо 9 складаў суддзяў і 11 пракурораў. Хто ж трапляе ў жорны гэтай машыны? У студзені, прыкладам, за незаконны продаж дзвюх пачкаў цыгарэтаў (яшчэ 4 былі пры сабе) берасцейскай пенсіянерцы прысудзілі максімальна магчымы штраф – 50 мінімальных зарплатаў (гэта эквівалентна 150 доларам). Яшчэ дзвюм берасцейкам за крадзеж крышталёвай вазы вынесены самы «мяккі» прысуд – па 600 «мінімалак» з кожнай... ■

## На 100 беларусаў — палова мабільніка

**Алена ЛАБАНАВА**

Галоўным дасягненнем сваёй галіны за апошнія 5 гадоў міністр сувязі Мікалай Крукоўскі называе развіццё інтэрнэта. На сённяшні дзень налічваецца 27 правайдэраў беларускага Сеціва, з іх 8 – буйных. Паколькі дзяржаве належыць манаполія на знешні шлюз інтэрнэта, усе правайдэры ім карыстаюцца толькі праз «Белпак». Так, па словах міністра, і прасцей, і танней, бо калі больш карыстальнікаў, то і зніжак болей.

Дакладнай статыстыкай аб колькасці карыстальнікаў інтэрнэта на бягучы момант Мікалай Крукоўскі не валодае, бо, як ён заўважыў, кожны з правайдэраў імкнецца ўтаіць сапраўдную колькасць сваіх кліентаў._Але, па выніках снежня 2000 года, «Белпакам» было выстаўлена каля 117 тысячаў рахункаў па беспарольным доступе ў інтэрнэт. На сярэдзіну мінулага года гэтая лічба не перавышала мяжы ў 30 тысячаў. Такі рост карыстальнікаў міністр назваў лавападобным і заўважыў, што на наступнае пяцігоддзе плануецца павялічыць колькасць партоў да 15 тысячаў, а хуткасць «загрузкі» давесці да 34 мегабіт.

Іншы клопат – мабільная сувязь: яе развіццё не такое імклівае, як Сеціва. Цяпер на беларускіх абшарах працуюць толькі два аператары, якія абслугоўваюць 47 тысячаў карыстальнікаў мабільнай сеткай. Такім чынам, калі ў маленькай Літве на 100 жыхароў прыпадае 11 мабільных тэлефонаў, то на Беларусі на 100 жыхароў прыпадае 0,5 мабільніка. Міністр сувязі патлумачыў гэта толькі тым, што беларусы яшчэ не зразумелі ўсёй зручнасці мабільнай сувязі і аддаюць перавагу фіксаванай тэлефоннай сетцы. Хоць справа ў тым, што ў нас самі мабільныя апараты і пахвілінная аплата размоваў каштуюць у 5-8 разоў даражэй, чымсьці ў іншых еўрапейскіх краінах. Зараз вырашаецца пытанне аб з'яўленні трэцяга аператара мабільнай сеткі ў стандарце *GSM*. На працягу гэтага года мяркуецца правесці тэндэры, падрыхтаваць дакументацыю і да кастрычніка выдаць ліцэнзію новаму аператару. Такім чынам, з'явіцца ён на нашым рынку не раней за пачатак 2002 года. ■

## На Брэстчыне адключаюць электраэнергію

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

Парадокс беларускай эканомікі: беспрацоўе у вёсках за месяц да выхаду ў поле. У рамонтных майстэрнях калгасаў «Прагрэс», «Усход», «Світанак», «Малеч», племзавода «Прамень» Бярозаўскага раёна на Брэстчыне адключана электраэнергія. Без святла апынуліся канторы гэтых гаспадарак, пілярамы і ўсе дапаможныя вытворчасці. Раён завінаваціўся за спажытую энергію 611 мільёнаў рублёў, а з індэксацыяй – удвая больш.

Пад ціскам расійскага ведамства «ЕЭС Расіі» адключаюць напругу Бярозаўскія раённыя электрасеткі. Не гаспадары яны Бярозаўскай ДРЭС, якая прастойвае з-за дарагоўлі на прадукцыю яшчэ аднаго рускага магната – РАТ «Газпрам». ■

## 30% берасцейцаў не вераць у светлую будучыню

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

Як мінімум 85.000 жыхароў Брэста не вераць у лепшае будучае сваіх сем'яў. Гэта афіцыйная інфармацыя, якую агучыў на Брэсцкім заводзе безалкагольных напояў першы намеснік старшыні гарвыканкама Васіль Хайко. Чыноўнік узначальвае адну з так званых інфармацыйных групаў, якія кінутыя на ўсе прадпрыемствы з агітацыяй не праваліць давыбары ў «палату» і гарсавет, дзе ўсё яшчэ свабодныя 11 мандатаў.

Цікава, што Хайко заклікае людзей не пераўтвараць Брэст у «апазіцыйны» горад і даводзіць на сустрэчах, што «віна чыноўнікаў на 80% у тым, што галасаванне 15 кастрычніка не адбылося ва ўсіх акругах». Ці не ў гэтым адказ, наколькі моцным можа стацца адміністрацыйны рэсурс у Брэсце на давыбарах 18 сакавіка. ■

 



# Данюшево — обычная деревня



Данюшевский костел

**Вероника ЧЕРКАСОВА**

## Костел

Костел в деревне Данюшево, что расположена в пятнадцати верстах от Сморгони, был построен в 1631 году. Он стоит на пригорке на берегу Вилии, и летом здесь, говорят, чудо как красиво. Перед ним на постаменте – фигура Божьей матери.

Закрытый после войны, костел вновь открыли в 1988 году стараниями местных старушек. Старушки – они вообще могучая сила, незаметные, настойчивые (чтобы не сказать – настырные), потихоньку просачиваются в самые недоступные места и оказываются перед дверями самых нужных кабинетов. За костел они воевали несколько лет. Не осталось инстанции, куда б ни обратились, где бы ни поклонились тому или иному чиновнику. И если сначала, по признанию Ядвиги-Терезы Скробот, они не знали, как двери в исполком открыть, то под конец ушлые бабушки научились прошмыгивать к самому высокому начальству. Так, три местные старушки, всю жизнь не ездившие дальше Сморгони, отправились не куда-то, а в Москву, к самому Горбачеву. Просили они не для себя, и надо им было всего-то восстановить историческую справедливость и открыть в их Данюшево костел. К Горбачеву не попали, а вот до Совета по делам религий добрались. Костел передали верующим.

Приводили его в порядок всем миром. Прихожане ремонтировали его сами и за свой собственный счет. Это потом чиновники признавались, что были уверены – ничего у них не получится. «Некоторые даже говорили мне, — вспоминает Ядвига Ивановна, — вот вы все ходите да просите, а что будете делать, когда вам костел отдадут? Я как услышу такое — так будто током меня всю прошьет. А ведь действительно, что с ним делать? Окна выбиты, вековой слой пыли на стенах, сгнившее дерево...» В общем, сами купили стекло, сами вставили, покрасили, и 5 августа 1989 года в отремонтированном костеле прошла первая служба.

Долгие годы в костеле был очень красивый, «богатый», как говорят местные, орган. А потом уникальный инструмент разобрали на трубы, которые постепенно растащила местные на поделки. После того, как костел был открыт, в Данюшево как-то завернул мастер из Вильно, который предложил верующим за воз досок отремонтировать старинный инструмент. Сторговались, и сегодня время от времени в костеле звучит музыка.

Историю в Данюшево помнят по-своему. Николая II недолюбливают, поскольку запрещал католичество, даже земли давал тем, кто поменяет свою веру на православную. Ну а большевики вообще не смотрели — церковь или костел, кресты сбивали, храмы превращали в склады и зернохранилища. Костел для данюшевцев — не только памятник культуры и храм. «Во время войны мы в нем прятались от немецких бомбежек»,— вспоминает Ядвига Ивановна, уверенная в том, что лишь Господь тогда их и сохранил. Во время одного из жестоких боев, которых здесь было немало, костел стали обстреливать прямой наводкой. Но и тогда ксендз, попросив прихожан выйти из здания, один довел службу до конца. Кто его знает, быть может, именно вера и Бог спасли местных жителей, когда во время войны немцы приняли решение людей расстрелять, а деревню спалить дотла. Вымолили жизни крестьян все тот же ксендз вместе с местным доктором.

## Колокол

Раньше Данюшево было большой деревней, теперь жителей можно пересчитать по пальцам, да и те в основном старики. А еще Данюшево когда-то славилось большим приходом. До революции в близлежащей Сморгони не было ни одного костела, и все местные католики ходили молиться сюда. Дорога была неблизкой, приходилось перебираться через Вилию, бывало, что во время этих переправ люди тонули.

Строительство костела в Сморгони началось благодаря заботам и финансированию выросшего в Данюшево прелата Курчевского. Он родился в позапрошлом веке в бедной семье, что, впрочем, не помешало ему закончить Виленскую духовную семинарию, потом – академию, стать видным деятелем католической церкви. Будучи человеком способным, Курчевский получил сан прелата, написал книгу «Бискупство Виленское», принимал участие в работе комитета научного общества, опекавшего молодые таланты, куда кроме него входил ряд известных личностей, в том числе нобелевский лауреат Мария Складовская-Кюри.



Ксендз Ян Курчевский

Семья Ядвиги Скробот жила через несколько домов от Курчевских. Сама Ядвига Ивановна знаменитого прелата не помнит и знает о нем по рассказам отца и деда. Говорит: «Был он очень правдивым. Ксендзы ведь разные бывают, знаете, как Бог лес не сравнял, так и людей. Курчевского очень уважали за то, что ему ничего не надо было для себя, всю жизнь служил Богу и людям». Вот такая память о прелате сохранилась в его родной деревне спустя почти век после его кончины.

Служа в Вильно, Ян Курчевский никогда не забывал родное село. Часто приезжал сюда, помог выучиться всем братьям, сестрам и племянникам. А еще он подарил костелу колокол. Будучи удивительно изящным, он, тем не менее, весил 1 тонну 300 килограммов. Однако славился колокол не столько размерами, весом и формой, сколько удивительным звоном благодаря подобранному в очень удачных пропорциях сплаву меди, олова, цинка и латуни. Церквей, костелов и колоколов тогда было много, но голос данюшевского люди узнавали сразу. Когда он звонил, то слышали его даже в Сморгони, откуда до деревни по прямой семь километров.



Ядвига-Тереза Скробот и Елена Працута — хранительницы памяти Данюшева

Новый колокол повесили в каменной звоннице. Во время Первой мировой войны в этих местах почти три года стоял фронт, а в Данюшево располагался немецкий штаб. Немцы сделали в костеле больницу, звонницу разобрали, а из кирпича построили печки. В 1914 году оккупанты колокол сняли и увезли в Берлин. Помогло отыскать его через много лет то, что по кругу на нем была сделана дарственная надпись на польском языке: «Прихожанам данюшевским от прелата Курчевского. Да не окаменеют сердца тех, кто услышит этот звон. Вильно, 1907 год». Окажись колокол неподписанным — затерялся бы он за границей без следа и памяти.

Прелат Курчевский о том, что его колокол увезли, не узнал, поскольку еще в 1907 году умер от сердечного приступа прямо на амвоне во время проповеди. Кто сможет сегодня сказать, силой чьей молитвы в конце концов свершилось чудо: спустя более двадцати лет по той самой памятной надписи выходцы из белорусского Данюшево нашли колокол и вернули его обратно. Жаль, что не сохранилось имя того, кто нашел его в Берлине и переправил обратно на родину.

Во время Второй мировой войны наученные горьким опытом деревенские жители колокол сняли и опустили возле берега в Вилию, где он «прятался» всю войну. Когда пришла советская армия, колокол выловили. Но после войны власти закрыли костел, и в лучших традициях вульгарного атеизма устроили в памятнике культуры, которому было без малого четыре века, зерносклад. Колокол перевезли в Сморгонский краеведческий музей. Когда костел открыли снова, данюшевцы вернули. Для него построили звонницу, на которой он и висит. Только звук у колокола уже не тот. После того, как костел закрыли, звон валялся во дворе, где местные воинствующие атеисты или просто хулиганы вырвали у него язык и сдали его в металлолом. После того, как колоколу снова разрешили звучать, на заводе отлили новый. Но то ли сплав не тот, то ли форма иная, но прежнего, доносившегося Сморгони, голоса уже нет.



Временная звонница с возвращенным колоколом

## Лагерь

1939 год местные старики помнят до сих пор. Вспоминают они и то, как в 1940 году в Данюшево открыли лагерь. Поблизости строили военный аэродром, и, возможно, именно потому, что была нужна дешевая рабочая сила, сюда нагнали репрессированных. Разместили лагерь в разоренном имении пана Владислава Керсновского, которое обнесли колючей проволокой. На этом процесс благоустройства территории завершился. Заключенных в лагере было несколько тысяч человек. Жили они тяжело, кормили их камсой и не давали пить. Среди них было много женщин. Елена Ивановна Працута вспоминает, что когда заключенных гнали по деревне на работу, из толпы раздавались голоса: «Люди добрые, меня посадили за то, что я для детей в колхозе два бурачка взяла... А меня — за охапку соломы»... Многие просили хлеба... В конце концов, в лагере вспыхнуло восстание, которое было подавлено. Некоторых заключенных расстреляли. Старики помнят, что похоронили их не на кладбище, а в старом саду. Могил и имен погибших не сохранилось.

Большинство охранников в лагере были из местных. Двое жили в хате Елены Ивановны. «О том, что происходило в лагере, они молчали, как в рот воды набравши, — рассказывает пожилая женщина. — А когда мы начинали приставать с расспросами, говорили: «Да неужто вы не понимаете, что одно слово — и мы сами окажемся за той колючей проволокой»...

Когда в 1941 немцы стали наступать, лагерь подожгли, а заключенных угнали. Куда? Об этом не расскажет уже никто. Даже бывший охранник этого лагеря, который сегодня живет в соседней деревне Сутьково. Вспоминать о той поре он не любит, на все вопросы отвечает коротко: там сидели враги. Наверное, ему так легче... ■

# Кастро против Гавела

*Окончание. Начало на стр.1*

Во время своей предвыборной кампании лидер республиканцев неоднократно говорил о том, что с Кубой надо вести себя так, как это делал президент Рейган по отношению к Польше: помогать оппозиции мирно завоевывать свои права и свободы. Кастро посылает Америке и всему миру свое послание: «меня не интересует цена, которую придется заплатить, чтобы сохранить на острове прежний режим».

Почему он избрал в качестве мишени двух чешских политиков? В конечном итоге, точно так же вели себя до этого на Кубе испанцы, панамцы, мексиканцы, венесуэльцы, американцы и граждане десятков других стран. Все дело в личности Вацлава Гавела. Кастро его просто ненавидит. Для него как острая бритва — огромный международный престиж чешского президента, его моральное лидерство и тот факт, что всемирно известный писатель и драматург неоднократно заявлял: нации, освободившиеся от коммунизма, остаются в неоплатном долгу перед теми, кто еще бьется в путах тирании. В течение двух последних лет Прага при твердой поддержке польского правительства добивалась энергичного осуждения Кубы в Комитете по правам человека в Женеве.

Кастро, правда, на само это голосование наплевать. Ему хотелось отомстить лично Гавелу. И он это сделал в форме недопустимого насилия по отношению к чешским гражданам. Диктаторские режимы воплощают в себе не только крайние амбиции, но и ненависть. Сейчас перед нами не только противостояние между коммунизмом и свободой. Кастро таким иезуитским образом отвечает не только Гавелу, но и уже ушедшим Живкову, Хонеккеру и даже Чаушеску, которые не смогли или не захотели «отстаивать революционные идеалы» и «предали свои народы». Это ответ «каналье» Горбачеву, который «продался ЦРУ», «пьянице Ельцину» и даже некоторое предупреждение недавно посетившему Кубу Путину, который показался Кастро «омерзительным оппортунистом» (все дело в том, что российский президент отказался присоединиться к антизападной риторике кубинского лидера). Так себя ведут самовлюбленные психопаты: они смотрят на мир только с высоты своей власти. То, что я говорю в этой статье, разделяют и многие кубинцы — представители политических структур, на которые опирается сам Кастро. Лицемерие, сознание собственной беспомощности, страх парализуют и заставляют молчать кубинских парламентариев, дипломатов, партийных руководителей и военных. «Что ты хочешь, чтобы я сделал? — спрашивал председатель кубинского парламента Рикардо Аларкон одного нашего общего с ним знакомого. — Ты хочешь, чтобы я совершил политическое самоубийство?»

Все приближенные команданте знают, что живут под гнетом капризной и жестокой личности, которой старость прибавила все возможные человеческие пороки. Но все они молчат, ожидая лишь того часа, когда природа снимет его с их шеи. А до того момента они должны в тишине благодарить этого человека за то, что он дал им часть власти, и одновременно смертельно ненавидеть за то, что эта власть является лишь формой тотального повиновения; они должны аплодировать всем его невыносимым старческим глупостям и с улыбкой встречать бесчисленные унижения.

Несколько лет назад у меня состоялась встреча с Вацлавом Гавелом. Мы говорили о будущем Кубы и победившей демократии в Чехии. При прощании он сказал мне такие слова: «Кубинский диссидент в заточении для нас то же самое, как если бы за решеткой оказался чех». Сейчас два смелых чеха заточены в кубинскую тюрьму. Святой долг демократов всего мира выступить в их защиту. ■

**«Общая газета»**

 

# Хто даверыўся «Альформе», блукае па вуліцы

## Як звольнілі адразу гродзенскіх 460 работніцаў

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

**Цэх па перапрацоўцы крэветак, які існаваў у Гродне з 1992 года, раптам закрыўся. На вуліцы ў аднначассе апынуліся адразу 460 жанчын ад 16 гадоў да перадпенсійнага веку. А сумеснае прадпрыемства ТАА «Альформа», якому належаў цэх, працягвае існаваць.**

Усё адбылося неяк да банальнасці будзённа. 17 студзеня на дошцы аб'яваў з'явілася папера пад назвай «Аб магчымасці закрыцця цэха па перапрацоўцы крэветкі». Адміністрацыя паведамляла, што «ў выпадку спынення паставак сыравіны» галандскай фірмай «Голдфіш БВ» цэх па перапрацоўцы крэветкі спыніць сваё існаванне з 23 студзеня. Карацей, гэткае недвухсэнсоўнае папярэджанне за 6 дзён. Хаця, як высветліцца потым, ужо было вядома дакладна, што жанчын чакае беспрацоўе. 23 студзеня работніцы, якія перапрацоўвалі крэветкі, пачулі па селектарнай сувязі, што з гэтага дня цэх закрываецца. Але толькі 29-га — зноў-такі яшчэ праз 6 дзён на дошцы з'явіўся загад дырэктара прадпрыемства М.Леха — цэх спыняе сваё існаванне, з апрацоўшчыцамі скасаваць працоўнае пагадненне. Загад, дарэчы, быў падпісаны яшчэ 17 студзеня.

І вось тут для работніцаў пачаліся незразумелыя справы. Іх пачалі прымушаць пісаць заявы на звальненне. Напрыклад, каб звольнілі ў сувязі з нібыта заканчэннем працоўнай дамовы. Але, калі гэта так, калі яна закончылася, навошта пісаць заяву? А каб атрымаць заробленыя грошы, тлумачылі ім. Іншым раілі напісаць, што яны добраахвотна звальняюцца нібыта дзеля догляду дзяцей да 14-гадовага ўзросту. Карацей, адміністрацыя тут як быццам ні пры чым, усе жанчыны вырашылі разысціся па дамах самі... Большасць заявы напісалі, баяліся, што не атрымаюць заробак за студзень і кампенсацыю за адпачынак. Баяліся таксама застацца без даведкі, без якой не бяруць на ўлік у якасці беспрацоўных.

Кіраўнік свабоднага прафсаюза Ірына Байрашэўская заяву пісаць адмовілася. Ёй працоўную кніжку ўсё адно выдалі, праўда, толькі праз тыдзень пасля закрыцця цэха. Даведку для бюро занятасці давялося патрабаваць. Хаця, па словах жанчыны, сэнсу ў звароце туды мала. Вакансіі ёсць, нават і больш-менш аплатныя, але пераважна гэта мужчынскія спецыяльнасці, прычым часта цяжкія фізічна. А што казаць тады пра цяжарных, якіх, разам з «дэкрэтчыцамі» сярод звольненых — 43 асобы? Іх ніхто на працу не возьме. Праўда, за дзвюх з іх Байрашэўская змагаецца, бо яны — яе прафсаюзніцы. У прафсаюзе было 52 жанчыны, адстойваць свае правы вырашылі толькі 18 з іх. А змагацца ёсць за што.

Кіраўніцтва «Альформы» пры звальненні работніцаў спаслалася, між іншым, на калектыўную дамову. Аднак у ёй ясна сказана, што кіраўніцтва павінна было не менш, як за 3 месяцы папярэдзіць прафсаюз аб магчымых звальненнях і прадумаць магчымасці працаўладкавання жанчын. Нічога гэтага зроблена не было. Не кажучы ўжо аб выплаце двухмесячнай грашовай кампенсацыі звольненым работніцам, што належыць зрабіць згодна з заканадаўствам. Што да членаў прафсаюза, дык іх адміністрацыя павінна была папярэдзіць аб звальненні нават у самым крайнім выпадку як мінімум за два тыдні. Згоду на звальненне таксама павінен быў даць прафсаюз, але яго аб гэтым ніхто не пытаў.

Па дадзеных прафсаюза, яшчэ 12 студзеня ў крэветачны цэх бралі на працу новых работніцаў. Сярод звольненых былі і студэнткі, і жанчыны, якім засталося да пенсіі пару гадоў. Такім уладкавацца на працу будзе надзвычай цяжка. Складана, як ужо гаварылася, цяжарным, а хутчэй за ўсё і ўвогуле немагчыма. Няпроста будзе і маці-адзіночкам, якіх сярод звольненых было нямала. У некаторых, па дадзеных прафсаюза, нават па двое-трое дзяцей. Знайсці новую, прычым прымальную, працу ўзімку — справа пагатоў складаная. ■




Фота IREX/ProMedia

● Ніхто ня ведае, куды павязуць гэтых забітых бычкоў

# У Брэсцкай вобласці зноў не плацяць грошы

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

Адзін мільярд 244 мільёны рублёў склала запазычанасць па зарплаце ў Брэсцкай вобласці. Паводле афіцыйных звестак, 36,3 мільёна прыпадаюць на 12 прамысловых прадпрыемстваў, большая ж частка сумы — 950 мільёнаў — гэта даўгі 160 калгасаў і саўгасаў Брэстчыны. Як было сказана на паседжанні аблвыканкама, да кіраўнікоў прадпрыемстваў-даўжнікоў, а таксама калгасаў і саўгасаў будуць прымяняцца самыя жорсткія меры, аж да звальнення. У Брэсцкай вобласці па-ранейшаму самы нізкі ў рэспубліцы ўзровень сярэдняй зарплаты. Так, у снежні яна склала 74,5 тысячы рублёў.

Найвышэйшая зарплата ў банкаўскіх работнікаў — 142 тысячы, а самая нізкая — 43 тысячы — у калгаснікаў. ■

БелаПАН

# Ценявая эканоміка — трацiна ад легальнай

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

Цяперашнім часам аб'ём ценявой эканомікі Беларусі складае прыкладна 30% ад аб'ёму легальнай. Пра гэта паведаміў старшыня Дзяржаўнага падатковага камітэта краіны Канстанцін Сумар на прэс-канферэнцыі ў Мінску.

Паводле яго словаў, адна з прычынаў адыходу эканомікі ў «цень» ёсць вялікая падатковая нагрузка на фонд аплаты працы – 40% без уліку падаходнага падатку. «Такое становішча не садзейнічае легалізацыі заработнай платы. Калі на дзяржпрадпрыемствах больш-менш нармальная сітуацыя, то ў камерцыйных структурах, на малых прадпрыемствах, у СП афіцыйна атрымліваюць часам па 18-20 тысяч рублёў. Кіраўніцтва гэтых прадпрыемстваў вымушанае выплачваць зарплату ў канвертах з-за вялікіх падаткаў», — зазначыў Сумар.

У 2001 годзе ДПК наважаны прадоўжыць работу па паступовым зніжэнні падатковай нагрузкі і колькасці падаткаў. «Калі ў 1999 годзе доля падаткаў у структуры ВУП займала 42,4%, у 2000-м – 42,2, то сёлета плануецца выхад на ўзровень 41,1% працэнта», — сказаў Сумар. Старшыня ДПК не згодны з меркаваннем, што падатковая нагрузка ў Беларусі вышэйшая, чым у іншых дзяржавах. Ён прывёў у прыклад скандынаўскія краіны, дзе гэты паказчык дасягае 52-56%. У Расіі ж, паводле яго словаў, у 2000 годзе доля падаткаў у ВВП склала 41%, або ўсяго на 1,1% меней, чым у Беларусі.

Адначасова ДПК выступае за скарачэнне падатковых ільготаў, якіх толькі летась было прадастаўлена на агульную суму 60 мільярдаў рублёў.

Апрача таго, цяперашнім часам супрацоўнікі беларускага падатковага ведамства разам з расійскімі калегамі праводзяць работу па уніфікацыі шасці відаў падаткаў: на прыбытак, на даходы, на маёмасць, падаходнага, акцызнага і ПДК. Аднак, па словах старшыні ДПК, у 2001 годзе уніфікацыі падатковага заканадаўства не адбудзецца. Сумар лічыць немэтазгодным па прыкладу Расіі ўводзіць адзіны 13-працэнтны падаходны падатак. «Па-першае, гэта павышэнне падатковай нагрузкі на беларускіх грамадзянаў, пакольки сярэдняя стаўка, зыходзячы з падатковых паступленняў, вагаецца ў межах 9,2-9,6%. А па-другое, у Расіі гэта часовая мера, якая мае на мэце выявіць аб'ём нелегальных даходаў з тым, каб праз год-два прыняць нейкія захады», — сказаў Сумар.

Як заўважыў кіраўнік ДПК, у Расіі нядоімка падаткаў летась склала 4% даходнай часткі ў бюджэт, а ў Беларусі — 1,3% (43 мільярды рублёў). «Аднак і гэта вельмі вялікая сума. Яна эквівалентная гадавой зарплаце 90 тысяч настаўнікаў або ўрачоў», – зазначыў Сумар.

Кажучы аб падаткаабкладанні фізічных асобаў, кіраўнік падатковага ведамства паведаміў, што ў 2000 годзе дэкларацыі аб сукупным даходзе падалі 227 тысяч чалавек, з іх 77 тысяч – упершыню. Дадатковых падаткаў спагнана на суму 1,3 мільёна долараў ЗША ў пераліку па курсу Нацбанка, пры гэтым каля 5 тысяч чалавек заплацілі падаткі па максімальнай стаўцы (30%). Да адказнасці за «злоснае ўхіленне» ад уплаты падаткаў прыцягнутыя больш за 3 тысячы чалавек. ■

БелаПАН



# Набліжаецца час адымання лішкаў

**Алена ЛАБАНАВА**

28 лютага сканчаецца тэрмін падачы дэкларацыі аб сукупным гадавым даходзе. За ўхіленне ад яе падачы заканадаўства прадугледжвае адказнасць у выглядзе штрафу ў памеры ад 10 да 50 мінімальных заробкаў.

Гэты цяжкі для разумення падатковы дакумент павінны запоўніць усе грамадзяне Беларусі, замежнікі і асобы без грамадзянства, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі больш за паўгода і маюць больш адной крыніцы даходаў. Нягледзячы на тое, што на працягу года кожная ўстанова, дзе чалавек працуе, утрымлівае падаткі самастойна, потым іх трэба абавязкова скласці разам.

Такім чынам, можа атрымацца так, што калі плаціць увесь год на розных месцах працы па 9% падатку, то праз наяўнасць прагрэсіўнай шкалы падаткаабкладання сукупны гадавы даход можа падпасці пад падатак у 30%, і трэба будзе даплачваць досыць вялікую розніцу паміж ужо аплачанымі і налічанымі сумамі. Так, за 1999 год было пададзена 166 тысячаў дэкларацыяў, і палове з падаткаплацельшчыкаў былі налічаныя даплаты ў памеры 415 мільёнаў рублёў. Адваротнае бывае вельмі рэдка: толькі 2,5% плацельшчыкаў пераплацілі падаткі на працягу 1999 года на агульную суму 12 мільёнаў рублёў. Такім чынам, дзяржава хітра адымае лішкі ў грамадзянаў, хоць такіх асобаў, якія плацяць падатак па стаўцы 30%, адзінкі, а сярэдняя стаўка падаходнага падатку складае 12%.

Нагадаем, што не трэба падаваць дэкларацыі пры сукупным гадавым даходзе, меншым за 240 сярэднямесячных мінімальных заробкаў (гэта меней 55 тысячаў рублёў на месяц), а таксама пры атрыманні аліментаў, стыпендыяў, пенсіяў, спадчыны, падарункаў ад сваякоў да 200 мінімальных заробкаў, гуманітарнай дапамогі і г.д. Індывідуальныя прадпрымальнікі і кватэраздаўцы павінны падаваць дэкларацыю ў любым выпадку. Дэкларацыю можна падаваць і без даведак з месцаў працы аб сумах атрыманага даходу, бо такая інфармацыя ўсё роўна паступае ў падатковыя інспекцыі ад наймальнікаў. ■

# Індывідуальныя прадпрымальнікі заплацяць на 20% болей

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

Бліжэйшым часам на подпіс Аляксандру Лукашэнку будзе прадстаўлены праект дэкрэта аб адзіным падатку з прадпрымальнікаў. Пра гэта паведаміў старшыня Дзяржаўнага падатковага камітэта Канстанцін Сумар.

Дакумент прадугледжвае ўвядзенне ставак адзінага падатку, выражаных у мінімальных заработных платах. Яны будуць вар'іравацца ў залежнасці ад відаў дзейнасці і мець мінімальны і максімальны памер. Канкрэтныя стаўкі ў рамках «вілкі» будуць вызначаць мясцовыя Саветы. Аднак у цэлым яны будуць вышэйшыя за цяперашнія прыкладна на 20 працэнтаў. Па словах Сумара, гэта выклікана тым, што прадпрымальнікі ўтойваюць частку прыбытку. Апрача таго, частка цяперашніх падаткаў будзе адмененая.

Дэкрэт аблегчыць індывідуальным прадпрымальнікам вядзенне справаздачнай дакументацыі. У прыватнасці, мяркуецца адмена адрыўных талонаў, касавых сумiруючых апаратаў, дэкларацыяў аб даходах і суправаджальных дакументаў, якія зараз неабходна браць у месцах закупкі тавараў.

Апрача таго, прадаўцы тавараў, якія паходзяць з трэціх краінаў і ўвезеныя ў Беларусь з Расіі, будуць выплачваць адзіны падатак з павышальным каэфіцыентам 1,3, які, паводле інфармацыі Сумара, ужо ўзгоднены з міністэрствам прадпрымальніцтва і інвестыцыяў. Адначасова ў нашумелай пастанове Дзяржаўнага мытнага камітэта будзе ліквідаваны пункт аб абавязковым мытным афармленні такіх тавараў індывідуальнымі прадпрымальнікамі.

Па словах Сумара, дагэтуль ніводзін прадпрымальнік не прыцягнуты да адказнасці за невыкананне пастановы ДМК, пры тым што «ніхто з іх яшчэ не запоўніў мытную дэкларацыю і не заплаціў мытную пошліну». Апошнім часам падатковыя органы сталі правяраць наяўнасць у прадпрымальнікаў неабходных дакументаў, аднак іх «ніхто не ганяе». Сумар, паводле яго словаў, не збіраецца адказваць на прапанову міністра прадпрымальніцтва і інвестыцыяў Анатоля Скорбежа аб'явіць мараторый на праверку выканання пастановы ДМК да прыняцця новых заканадаўчых актаў: «Гэта наша работа. Па закону мы робім усё правільна». ■

БелаПАН

СПОРТ

## «Кафель» Валчкову пакуль не пад сілу

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

На жаль, на чвэрцьфінальным бар'еры скончыўся шлях беларуса Уладзіміра Валчкова на тэнісным турніры ў італьянскім горадзе Мілане з прызавым фондам 400 тысяч долараў. Так пакуль і не здолеў лепшы на цяперашні момант беларускі тэнісіст адалець аднаго з лепшых тэнісістаў свету па мянушцы «Кафель» (па пашпарце – расіяніна Яўгена Кафельнікава), які па выніках мінулага сезону быў у пяцёрцы лепшых. Валчкоў і раней сустракаўся з рускім, але пакуль ні разу не здолеў здабыць перамогу. З лікам 4:6, 3:6 Валчкоў пацярпеў паразу, аднак ужо выхад у чвэрцьфінал можна лічыць поспехам пасля таго як пачатак сезону, не лічачы тэніснага турніру ў Катары, беларусамі і беларускамі быў правалены. Цяпер у тэнісным свеце наступае перыяд гульняў зборных камандаў у рамках розыгрышу кубка Дэвіса. ■

## Пачатак турніру – як марш пахавальны

**Аляксей СТАЎСКІ**



Павел Растоўцаў

Абсалютна бесперспектыўна для беларусаў прайшлі першыя спрынтэрскія гонкі на чэмпіянаце свету па біятлоне, што распачаўся ў суботу ў славенскім мястэчку Паклюка. Ніводная з беларускіх жанчын, уключаючы нашу «прыму» Святлану Парамыгіну, не здолелі трапіць нават у «трыццатку» лепшых на чэмпіянаце! І ў прынцыпе нават не мелі на гэта шанцаў, бо абагналі беларусак нават некаторыя кітаянкі! Перамагла ж нікому яшчэ амаль не вядомая немка з прозвішчам Вільхельм, што стала першым сюрпрызам чэмпіянату.

У беларускіх мужчын шанцаў таксама не праглядалася. Вадзім Сашурын стаў шаснаццатым, Алег Рыжанкоў – дваццаць шостым, Аляксей Айдараў – дваццаць восьмым. Лепшы з беларусаў прайграў пераможцу, расіяніну Паўлу Растоўцаву хвіліну і трыццаць сем секундаў, таму ніякіх шанцаў на медальнае выступленне ва ўчарашняй гонцы пераследу, зразумела, не было. Адзінае, што патрэбна было захаваць прэстыж і проста выступіць дастойна. Але ж выступаць дастойна і заваёўваць кваліфікацыйныя ачкі можна на этапах кубка свету, а на чэмпіянат свету людзі едуць за медалямі. Ва ўсякім разе, вядучыя біятлонныя краіны, да якіх да гэтага чэмпіянату свету можна было аднесці і Беларусь. Цяпер жа яскрава бачна, што поспех да беларусаў можа прыйсці хіба толькі ў эстафетнай гонцы ў апошні дзень спаборніцтваў, ды і тое пры вялікім удзеле цёткі Фартуны, якая будзе біць па рулях ружжаў сапернікаў, каб тыя «мазалі» міма мішэні як мага больш, бо пры іншым раскладзе шанцаў у беларусаў проста няма. І гэта сумна, бо пасля чэмпіянату можна будзе пачынаць канстатаваць смерць паспяховых традыцыяў у яшчэ адным відзе спорту на Беларусі з яе «спартсменам-кіраўніком». ■

## Скандал з удзелам Кульчага разрастаецца

**Аляксей СТАЎСКІ**

Галоўны скандал расійскага футбольнага межсезоння напрамую закрануў і Беларусь, бо менавіта прадстаўнік нашай краіны – галоўны аб'ект скандалу. Аляксандр Кульчы, некалі ігрок зборнай Беларусі, доўгі час выступаўшы за маскоўскае «Дынама», а ў мінулым сезоне за яраслаўскі «Шыннік», – уліп у «канкрэтную» гісторыю. Справа ў тым, што ён падпісаў кантракт са сваім новым клубам варонежскім «Факелам» і нават паляцеў разам з камандай на міжсезонныя зборы на Кіпр. Аднак адтуль ён у хуткім часе збег, вылецеўшы ў Маскву, і ўжо адтуль абвесціў, што не жадае выступаць за новую каманду, з якой заключыў кантракт па прычыне «непадабенства характарам» з трэнерам «Факела». Кіраўніцтва ж «Факела» высунула новую версію, згодна з якой у Аляксандра з'явіліся больш выгадныя фінансавыя прапановы з Яраслаўля, дзе ён выступаў у мінулым сезоне. І ў рэшце рэшт менавіта гэта сталася праўдай. Кіраўніцтва «Факела» падало на Кульчага ў «футбольны суд» – дысцыплінарна-тэхнічны камітэт (ДТК), які вынесе рашэнне – альбо скасаваць кантракт Кульчага з «Факелам» па прычыне таго, што ён быў заключаны з памылкамі, альбо дыскваліфікаваць футбаліста. Верагодна нават на год.

Сёмага лютага адбудзецца паседжанне ДТК, які і вынесе рашэнне па «справе Кульчага», аб якой піша ўжо ўся расійская спартыўная прэса. ■

# Песней давал радость людям...

**Диана ЧЕРЕПОВИЧ**




**Рожден для песни. Так думал о себе Михал Забейда-Сумицкий. Так думают все, кто слушал его пение. Школа бельканто (а Забейда был выдающимся ее представителем) помогла ему раскрыть перед всем миром неповторимую красоту белорусской песни. Его пластинки с записями произведений мировой классики и песен народов планеты выпускали известнейшие европейские фирмы. И только в Беларуси, песню которой он прославил по свету, его пластинок не было... Голос Михала Забейды звучал на оперных сценах Италии, в Китае, Польше, в Чехословакии. Его выступления по Варшавскому радио транслировали Париж, Лондон, Прага, Нью-Йорк. Его сравнивали с Леонидом Собиновым и Тито Скипа. Но Забейда-Сумицкий прежде всего был белорусом, хотя большую часть своей жизни прожил в эмиграции.**

Судьба М.Забейды трагична. Как писал о себе он сам: «Сиротство (без отца), две войны, туберкулез, фашистская тюрьма и просто злые языки. Всю жизнь жил, как с петлей на шее: потянет кто-то или что-то, и конец».

Мать певца Александра Феликсовна Сумицкая была родом из Шепич, отец Иван Андреевич Забейда – из деревни Нестеровичи. Выписка из метрической книги свидетельствует, что 1(14) июня 1900 года в Нестеровичах родился их сын Михал. Семья была очень бедная, земли своей не имела, жилось трудно. Из семерых детей выжили двое, но брат Михала Ивановича Володя в 22 года умер от чахотки.

Мальчику было всего полтора года, когда умер отец, но когда сын подрос, Александра Феликсовна, сама неграмотная, из последних сил старалась дать ему образование. Чтоб заработать на тетради и чернила, Михал ходил к пану копать картошку, сгребал сено, вязал снопы. Учился мальчик «по хатам», как тогда было принято, у домашних учителей, потом окончил Зельвенскую одноклассную школу и двухклассную церковно-приходскую в Головчицах. Занимаясь в Молодечненской учительской семинарии получал казенную стипендию – 180 рублей в год.

Первая мировая война сорвала с места и семью Забейды. Александра Феликсовна оказалась в Сибири. В 1918 году, окончив учительскую семинарию, приехал к ней Михал. Работал учителем в селе недалеко от Барнаула, попал в Харбин, закончил экономический факультет Харбинского университета, но не чувствовал призвания к работе экономиста. Мечтал быть певцом.

Дар пения был, что называется, в роду. Одаренным человеком, неплохим певцом был отец. Серьезно своим голосом Михал занялся в Харбине, где его первой наставницей стала Юлия Константиновна Плотницкая, выступавшая раньше с Шаляпиным. Однажды она сказала любимому ученику (было ей тогда почти 80 лет): «Только вам, милый, я хочу передать все то, что знаю и на что способна, потому что не желаю, чтобы все это сошло вместе со мной в могилу».

В Харбинской опере состоялся успешный дебют Михала Забейды, когда он всего за две недели подготовил партию Ленского в опере Чайковского «Евгений Онегин». В этом же театре с 1929 по 1932 год молодой артист исполнил 15 теноровых партий. И все с большим успехом у публики, с прекрасными откликами в прессе. Однако, сам М.Забейда считал, что еще не достиг вершин исполнительского мастерства. Нужно ехать в Италию – решил он. Настоящая школа певцов там. После стажировки в Милане М.Забейда собирался работать в Советском Союзе.

В Италии, как и в Харбине, М.Забейде повезло с учителем. Им стал известный певец Фернандо Корпи, в свое время соперничавший с самим Энрике Карузо.

Итальянский период стал счастливым для Забейды-Сумицкого. На сцене Ла Скала он исполнял почти все теноровые партии, часто выступал с концертами, и газеты, как и в Харбине, называли его тенором необыкновенной красоты, артистом высокой культуры. В Милане М.Забейда слушал Шаляпина, встречался с Леонидом Собиновым.

Сезон 1935 – 1936 г. М.Забейда работает в Познанской опере. Вскоре он вынужден оставить оперу и перейти работать на Варшавское радио. В концерты он все чаще включает белорусские народные песни и исполняет их наряду с известными классическими произведениями. М.Забейда-Сумицкий был первым, кто вывел белорусский песенный фольклор на мировую сцену.

Много было сделано для того, чтобы состоялся приезд М.Забейды на родину. Творческая интеллигенция ждала его с нетерпением, но власти сделали все, чтобы выступления его прошли как можно незаметнее, чтобы услышало его как можно меньше людей. Ему ставилось в вину, что во время войны он приезжал в Беларусь и выступал с концертами, что его афиши висели рядом с немецкими приказами. Но тогда шла война против Советского Союза, а на афише артиста стояло имя Чайковского, в его концертах, как и раньше, звучали белорусские, русские, украинские песни. «Я знал, что фашисты натравляют один народ на другой, используя их распри в своих интересах,– объяснит после певец свою позицию. – Я же старался песней объединить людей, старался затронуть тончайшие, самые заветные и лучшие струны человеческого сердца». И, видимо, немцы считали совсем не безобидными эти концерты, если в Берлине певца обвинили в пропаганде славянства.

Всего 15 первых лет из 81 Михаил Забейда прожил в Беларуси. Всего однажды приезжал сюда на короткие гастроли. Те, кто был тогда рядом с ним, вспоминали, как, ступив на родную землю, он сказал: «Вот если бы мне никуда отсюда не уезжать».

Как и раньше, как и всегда, до последнего вздоха, главным делом жизни оставалась песня. Отпраздновав 70-летие, пережив два инфаркта и вообще имея от природы не очень крепкое здоровье, Михал Забейда не переставал выступать. В свой репертуар он включал песни народов мира, и каждую исполнял на языке того народа, которому она принадлежала. «Недавно пел по-бенгальски. Это уже 17 язык, на котором довелось петь».

...Похоронен наш соотечественник Михал Забейда-Сумицкий в Праге. На памятнике слова: «Жил песней и песней давал радость людям». ■

## Радыкалы ў космасе, кансерватары ў грамадстве

Распрацоўку беспрэцэдэнтнага праекта па будаўніцтве электрастанцыі, якая будзе перадаваць электраэнергію з калязямной арбіты на Зямлю, намерваецца фінансаваць урад Японіі. Згодна з праектам, на геастацыянарную арбіту на вышыні 36 тысяч кіламетраў будзе выведзены спадарожнік з сонечнымі батарэямі агульнай плошчай каля 3 квадратных кіламетраў. Гэтай плошчы сонечных батарэяў дастаткова, каб выпрацоўваць мільён кілават у секунду, што адпавядае магутнасці сучаснай атамнай электрастанцыі.

З дапамогай спецыяльнай антэны даўжынёй 1 кіламетр электраэнергія будзе перадавацца з касмічнай прасторы на Зямлю ў выглядзе мікрахваляў. Успрымаць і пераўтвараць мікрахвалі ў электраэнергію прызначаныя спецыяльныя прыёмнікі дыяметрам некалькі кіламетраў, усталяваныя ў пустыні ці на моры. Спадарожнік будзе важыць каля 20 тысяч тон, яго кошт абыдзецца ў 18 мільярдаў еўра. Па папярэдніх падліках, цана аднаго кілавата энергіі, выпрацаванага касмічнай электрастанцыяй, у 2 разы перабольшвае кошт электраэнергіі, якую атрымоўваюць на АЭС. Аднак японскія вучоныя працягваюць навуковыя і тэхналагічныя пошукі, каб зрабіць праект больш танным. Мяркуецца, што першая «касмічная электрычнасць» паступіць на Зямлю ў 2040 годзе. Рост насельніцтва і збядненне прыродных рэсурсаў прымушае да стварэння нетрадыцыйнай энергетыкі.

Аднак у жыцці свайго грамадства японцы трымаюцца традыцыйнай маралі. Урад будзе патрабаваць ад японскіх вучоных адмовіцца ад удзелу ў эксперыментах па кланіраванні чалавека, бо яны пагражаюць чалавечай годнасці. Прэм'ер-міністр Японіі Іасіра Моры заклікаў міністэрствы аховы здароўя і замежных справаў перашкодзіць удзелу японскіх даследнікаў у такіх праектах. Бо аб ініцыятыве па кланіраванні чалавека ўжо аб'явіла група вучоных з некалькіх краінаў, якімі кіруе італьянскі гінеколаг Севярына Антыноры. Па яго словах, іхны метад (падобны да таго, які выкарыстоўваўся пры стварэнні першай кланіраванай авечкі Долі) будзе скарыстаны толькі для бяздзетных сем'яў. Кошт кланіравання – не меней за 50 тысяч долараў. Сярод сем'яў, якія чакаюць магчымасці зведаць такую працэдуру, ёсць і японская пара. Прэм'ер-міністр Моры патрабаваў ад урада даведацца, хто гэтыя людзі, каб папрасіць іх адмовіцца ад свайго намеру. Летась японскі парламент ухваліў закон, які забараняе выкарыстанне ў лабараторыях чалавечых эмбрыёнаў і імплантацыю іх генетычнага матэрыялу ў яйцаклеткі, пазбаўленыя ядра. Закон, які пачне дзейнічаць з чэрвеня бягучага года, прадугледжвае да 10 гадоў зняволення для тых, хто яго парушыць. ■

КНІГАРНЯ

## Кнігі для студэнтаў, настаўнікаў, вучняў!

Сёння – кніга, па сутнасці, самы танны падарунак, які можна зрабіць сябрам, выкладчыкам, вучням, студэнтам. Тым больш, калі кніга карысная і дапаможа ў вучобе, навуцы, узбагаціць ведамі.

Цікавыя і карысныя ўзоры новай беларускай кнігі можна знайсці на кніжнай выставе ТБМ (Мінск, вул. Румянцава, 13. Блізка ад метро «Плошча Перамогі»).

Тэлефон кніжнай выставы – **213-43-52**.




«Хроніка Белай Русі» — самае поўнае даследаванне гісторыі паходжання назвы нашай дзяржавы. Аўтар прапаноўвае ўвазе чытача ўсе вядомыя версіі і крыніцы, як славянскія, так і заходнееўрапейскія, у якіх згадвалася назва «Белая Русь». Кніга ўяўляе цікавасць для аматараў роднай гісторыі, навукоўцаў, студэнтаў.

Аповесць «Апошняе каханне князя Міндоўга» падае трагічную гісторыю адносінаў 65-гадовага князя, стваральніка Навагрудскай дзяржавы, і 20-гадовай чужой жонкі, адносінаў, за якія плацілі жыццём мноства людзей на працягу дзесяцігоддзяў.




«Гісторыя Беларусі» — самы кароткі нарыс (80 старонак) нашай мінуўшчыны і сучаснасці, які сёння існуе. Пры невялікім аб'ёме аўтары здолелі трапна выкласці змест беларускай палітыкі, эканомікі, войнаў, рэлігійных стасункаў, абмаляваць постаці выдатных асобаў і г. д.

Кніга будзе карысная студэнтам, настаўнікам і асабліва вучням, якія здаюць экзамены па гісторыі Беларусі пасля заканчэння 9 класа.

Прыдатная яна і для кожнага, хто хоча хутка азнаёміцца з тысячагоддзем беларускай даўніны за адну гадзіну чытання.




Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя [illegible] не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № [illegible]289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvabo[illegible]rex.minsk.by Надрукавана ў друкарні УП «Мэджык»
г. Мінск, ул. Кнорына, 50. Заказ №119 Нумар падпісаны ў друк 04/02/2001 (15.00) Наклад – 9.300